


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 4 (320) САКАВІК 2022 ГОДА


**БЕЛАРУСКАЯ ПРЫМАЎКА**

*Хітрэйшы за ўвесь свет не будзеш*

МАЛАКО ВІЦЕБШЧЫНЫ

## У МАЛОЧНАЙ ВЫТВОРЧАСЦІ СЯРОД ЛЕПШЫХ РАЁНАЎ

**Пры знікненні калгасаў у Гарадоцкім краі раён паспяхова развівае малочную вытворчасць. Па сярэдніх надоях на адну карову за студзень наш раён на чацвёртым месцы ў вобласці, а па якасці вырабляемага малака на другім. Праўда, па валаваму збору малака ў студзені адбылося істотнае падзенне, як і ў сярэдніх надоях. І гэта не першы год.**

Віцебскае абласное ўпраўлене статыстыкі апублікавала статыстычныя даныя за першы месяц 2022 года. Гэтыя даныя шмат могуць паведаміць, напрыклад, пра стан жывёлагадоўлі на Віцебшчыне.

Першы паказчык датычыцца вытворчасці малака па раёнах вобласці. Тут на першым месцы Віцебскі раён, дзе на малачнотаварных фермах за месяц атрымалі 7328 тон малака. Другое ў Аршанскага раёна 6 609 тон, трэццяе — Верхнедзвінскі раён 4887. У Гарадоцкага раёна — 2184 тоны, а самае меньшая колькасць ва Вушацкага раёна («сталіца» баршчэўніка Сасноўскага) 564 тоны, Шумілінскага — 788 т., Расонскага — 889 т.. Пры гэтым найбольшы прагрэс у параўнанні са студзенем 2021 года у Аршанскага — 17,4%, Расонскага — 10,9% і Віцебскага раёнаў — 5,3%. А найбольшае падзенне вала на Шуміліншчыне — 78,9% ад 2021 года, Бешанковіцкім — 83,9% і Гарадоцкім — 84,8% раёнах.

У студзені звычайна значная частка стада яшчэ не расцялілася і сярэдня надоі на карову невялікія. Першае месца ў Віцебскага раёна — 537 кг, далей Аршанскі — 468 кг, Верхнядзвінскі — 425 кг, а за ім Гарадоцкі з Полацкім — 359 кг. Аўтсайдэрамі па якасці стада Шумілінскі — 123 кг, Вушацкі — 166, Мёрскі — 194 кг. Пры гэтым самыя істотныя падзенні сярэдніх надояў адбыліся ў Шумілінскім — 82% ад студзеня 2021 года і Гарадоцкім — 82,9%, а ў Бешанковіцкім — 87,3%.

І апошні статыстычны паказчык па малочнай вытворчасці: удзельная вага рэалізаванага малака да яго вытворчасці. Тут бяспрэчным лідэрам з'яўляецца Віцебскі раён — 94,1%, дзе выкарыстоўваюцца сучасныя тэхналогіі вытворчасці малака. Далей Гарадоцкі раён — 91,7%, дзякуючы найперш філіялу «Віраўлянскі» канцэрна «Дзецкасельскі» і трэццяе месца ў Пастаўскага раёна — 91,6%.

У цэлым малочная вытворчасць Віцебскай вобласці ў студзені ўтрымалася на мінулагодніх паказчыках. Выраблена малака 55 525 тон — 100,1% ад студзеня 2021 года, а сярэдня надоі склалі 305 кг або 101% ад 2021 года.

А Гарадоцкаму раёну не варта страчваць высокі ўзровень малочнай вытворчасці. Праўда ў выніку апошніх падзей са «спецаперацыяй» ва Украіне расійскаму інвестару будзе складана ўтрымацца на ранейшых пазіцыях.

**Л. Антонаў**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

ФІНАНСЫ

## ПРЫБЫТАК ЗМЕНШЫЎСЯ АМАЛЬ НА ТРЭЦЬ

**Арганізацыі Віцебскай вобласці істотна зменшылі прыбытак за 2021 год. Гарадоцкі раён мае значна меншы мінус, чым Мёрскі.**

Віцебскае абласное ўпраўлене статыстыкі апублікавала статыстычныя даныя за першы месяц 2022 года, а таксама і асобныя даныя за 2021 год. Гэтыя даныя шмат могуць паведаміць пра фінансавыя прыбыткі і страты арганізацый па раёнах Віцебшчыны і вобласці. Хто лепш, а хто горш спрацаваў за 2021 год? У каго самы значны прагрэс у прыбытках, а ў каго падзенне ў фінансавую прорву?

Віцебская вобласць за 2021 года атрымала прыбытку толькі ў 741,9 млн. рублёў, што склалала 68,8% ад 2020 года, калі прыбытак быў у 1077,7 млн. руб. Такое змяншэнне адбылося найперш у выніку дзейнасці арганізацый у Аршанскім, Лепельскім, Глыбоцкім, Мёрскім раёнах, дзе ранейшы прыбытак зменшыўся на дзесяткі мільёнаў рублёў. Так у Аршанскім з 244,8 млн. руб 2020 г. да 90,4 млн.руб 2021 года, у Лепельскім раёне з 88,0 млн. руб да 7,6 млн. руб, а ў Глыбоцкім раёне абрынуліся са 147,3 млн. руб прыбытку да 13,9 млн. руб — у 11 разоў стала менш. У Мёрскім раёне, дзе заваліў фінансавыя паказчыкі ствараемы металургічны камбінат, то тут меўся раней прыбытак у 3,6 млн. руб., а стала стратаў аж да 85,9 млн. руб.

На гэтым фоне значнага падзення прыбыткаў у чатырох раёнах арганізацыі нашага раёна за 2021 год спрацавалі са стратамі ў 1,6 млн. рублёў, меўшы ў 2020 годзе прыбытак у 6,9 млн. руб. І такое зминшэнне не выглядае занадта моцным.

Праўда ўсе суседнія раёны за 2021 год істотна павялічылі свае прыбыткі. Шумілінскі раён з 3,5 млн. рублёў да 9,7 млн. руб., Віцебскі з 23,6 млн. руб. да 54,8 млн. руб. , а Бешанковіцкі з 3,1 млн. руб да 14,7 млн. руб. --- амаль у пяць разоў! Варта адзначыць і Чашніцкі раён з Навалукомльскай ГЭС, дзе ад страт у 1,2 млн. руб 2020 года падняліся да прыбытку ў 15,3 млн. руб.

Аблстатыстыка паведамляе і аб колькасці стратных арганізацый у вобласці. Агульная іх колькасць зменшылася з 91 да 74. Гэта адбылося магчыма і за кошт узбуйнення арганізацый, а магчыма і праз паляпшэнне працы. Пры гэтым у Гарадоцкім раёне як было дзве стратныя арганізацыі ў 2020 годзе, так і засталося. Толькі іх стратнасць павялічылася з 3,6 млн. руб да 4,3 млн. руб на 19,2%. Найбольшы рост стратных арганізацый адбыўся ў Бешанковіцкім раёне з адной да чатырох, а змяншэнне ў Шумілінскім — з чатырох да адной, што дазволіла скараціць страты з 1,0 млн. руб. да 100 тысяч рублёў.

Вось такая статыстыка па стратных арганізацыях Віцебшчыны за 2021 год — другі год пандэміі каранавіруса.

**Леанід Гаравы**

АДУКАЦЫЯ

## ПРАЦАВАЦЬ З ДУШОЙ

**Творчы падыход да працы дэманструе выкладчык Гарадоцкага аграрна-тэхнічнага каледжа Наталля Фядотава. Як гэта адбываецца?**

У прафесіі немагчыма развівацца, калі не працаваць з душой, упэўнена выкладчык спецыяльных дысцыплін Гарадоцкага аграрна-тэхнічнага каледжа Наталля Фядотава. Жанчына звыш дзесяці гадоў дапамагае навучэнцам асвойваць спецыяльнасць «Энергетычнае забеспячэнне ў сельскай гаспадарцы», мае вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю.

— Я выпускніца нашага каледжа. Пасля працавала тут электрыкам, майстрам вытворчага навучання. Каб стаць выкладчыкам спецдысцыпліны, завочна скончыла Беларускі аграрна-тэхнічны ўніверсітэт і інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў БДПУ, — сказала Наталля Фядотава. — Лічыцца, што быць электрыкам — пакліканне мужчын. Я з гэтым не згодна — рэгулярна і з задавальненнем успамінаю навыкі, атрыманыя ў рамках асваення рабочай спецыяльнасці.

Дома, вядома, функцыянаванне электраабсталявання — зона адказнасці мужа, а на працы без праблем спраўляюся сама. Рада, што кожны год у новых групах электрыкаў нязменна прысутнічаюць дзяўчынкі. Як паказвае практыка, атрымаўшы вышэйшую адукацыю, яны прыходзяць у каледж на змену больш дасведчаным педагогам. Гэта дае магчымасць не толькі даваць навучэнцам неабходныя тэарэтычныя веды, але і рыхтаваць умелых практыкаў, запатрабаваных на рынку працы. Да таго ж у навучальных лабараторыях настаўнік павінен быць здольны заўважыць і развіць здольнасці рабят. Гэта дазволіць будучаму спецыялісту паверыць у свае сілы і дасягнуць прафесійных вышынь, прадоўжыць адукацыю.

Акрамя асноўнай дзейнасці, Наталля Генадзеўна — педагог дадатковай адукацыі, трэці год вядзе гурток па тэхнічнай творчасці.

— Ідэю заняцца чымсьці падобным яшчэ гадоў дзесяць таму падаў наш дырэктар Уладзімір Шыцько. Ён выказаў меркаванне, што дыпломныя праекты навучэнцаў павінны несці практычную каштоўнасць для сельгаспрадпрыемстваў ці раёна. Я вырашыла рэалізаваць гэта ў сферы аўтаматызацыі вытворчых працэсаў. Прыцягвала навучэнцаў, здольных увасобіць задуманае, у тым ліку ўдзельнічаць у распрацоўцы, мантажы і тэсціраванні навучальных макетаў і установак. У іх аснове пульт кіравання, які дазваляе ў лабараторыі дэманстраваць наватарскія задумкі падчас абароны дыплома. Далей мы выкарыстоўваем такія экспанаты ў якасці наглядных дапаможнікаў для вучобы. Напрыклад, у нас ёсць дзеючая воданапорная вежа, — паведаміла выкладчык. — Аналагічнае завадское абсталяванне каштуе вялікіх грошай. Мы ж выкарыстоўваем былыя ва ўжыванні матэрыялы і абсталяванне. Бярэм іх з гаспадарак, з якімі супрацоўнічаем, рамантуем разам з дзецьмі. Тая ж сітуацыя з начыннем для пультаў кіравання. У выніку атрымоўваецца бюджэтны і функцыянальны варыянт.

З 2019-га Наталля Фядотава ўцягнута ў тэхнічную творчасць не толькі з дыпломнікамі, але і з тымі, хто абараняе гонар каледжа на раённых, абласных і рэспубліканскіх конкурсах.

**Эдуард Бакевіч**
**Паводле "Віцебскія весці"**

ЭКАЛОГІЯ

## НАШЕСТВИЕ БУРЫХ ХИЩНИКОВ

**В Витебской области сегодня насчитывается около 450 медведей. И их число год от года увеличивается. Однако возрождению популяции рады не все.**

**Следы на дороге**

До выхода бурых хищников из спячки осталось всего ничего. Гарантий, что, проснувшись, они не отправятся к людям в поисках корма, нет. Такая вероятность тревожит жителей Долгопольского сельсовета, уже не раз сталкивавшихся с лесными визитерами. Осенью в местный сельисполком поступило пять обращений. Сельчане просили «приструнить» медведей, которые ходят в их деревни как к себе домой. Речь, к счастью, не о шатунах, делится председатель Долгопольского

*(працяг на стар. 2)*

ЭКАЛОГІЯ

(пачатак на стар. 1)
сельисполкома Виктор Бобков:

— Летом и осенью косолапых нередко видят в деревнях. Например, на пасеках. Конечно, люди опасаются: медведь хотя животное и мирное, но дикое, его намерения не предугадаешь.

Вместе с Виктором Леонидовичем и Сергеем Шестерневым, начальником Городокской райинспекции природных ресурсов и охраны окружающей среды, мы побывали в самых «медвежьих» точках района. Это деревни Пролетарск, Завань, Крошки, Ковали Долгопольского сельсовета. Александр Кириллов из Завани рассказывает, что за 40 лет охоты ни разу не встретил медведя в лесу:

— Теперь, может, увижу его прямо из окошка. В соседней Новке, знаю, косолапый пришел во двор. Хозяин сидел в беседке и услышал рычание. В Пролетарске медведя видели метрах в ста от магазина. Завмагом сфотографировала когтистые следы на дороге. И таких эпизодов немало. Почему так? Во-первых, думаю, что регулярные порубки тревожат мишек, теснят их с привычной территории. Во-вторых, деревни пустеют, а без примет жизнедеятельности человека, таких как дым из трубы, звери смелеют.

**ПРАВИЛА СПАСЕНИЯ**

Как нужно вести себя при встрече с косолапым хищником

Валерий Ивкович убежден: лучше постараться избежать контакта. В лесу ведите себя погромче: смех, разговор, топот, шум от ударов палкой по кустам или деревьям — все это показывает, что вы где-то рядом. Услышав людей, медведь обойдет это место за версту. Если нежданное «свидание» все же состоялось, дайте ему возможность ретироваться. Убегать или поворачиваться к животному спиной нельзя. Не паникуйте, не делайте резких движений и не смотрите ему в глаза, советует специалист:

— Размахивать руками, кричать или что-то бросать тоже не стоит. Для начала замрите, оценив обстановку. Если мишка не ведет себя агрессивно, то спокойно, но уверенно отступайте, пятясь назад. Отойдя на расстояние около 15 метров, медленно двигайтесь в сторону. Даже если медведь настроен, на первый взгляд, дружелюбно, ни в коем случае не пытайтесь подойти ближе и уж тем более его погладить. Такое «мирное» поведение может быть признаком бешенства.

Иногда срабатывает известный в охотничьей среде трюк. Чтобы казаться внушительнее, выше, чем вы есть на самом деле, можно поднять над собой длинную палку, расстегнуть куртку — словом, занять как можно больше пространства. Есть шанс, что медведь «оценит» габариты противника и сбежит.

Юрий Леонов, директор Городокской районной организационной структуры РГОО «Белорусское общество охотников и рыболовов»:

— В Витебской структуре Белорусского общества охотников и рыболовов давно поднимают вопрос о переводе медведей в разряд животных охотничьих видов. Причем речь не о зеленом свете на добычу на территории всей республики, а о возможности взять на контроль численность бурого хищника конкретно на Витебщине. Именно здесь его количество самое большое по стране, и с каждым годом цифры только увеличиваются. Для примера: 10 лет назад в угодьях БООР в Городокском районе фиксировали от 6 до 10 мишек. Сейчас — 30–35. А ведь в нашем регионе еще пять охотпользователей, и у каждого своя статистика.

Мое мнение: медведь хотя животное и краснокнижное, но опасное. Последние пару лет ведем его учет по поручению Национальной академии наук Беларуси и уверены: встречаться косолапые стали чаще. Крупный хищник с отменным аппетитом может навредить не только пчелам и посевам, но и представлять опасность для человека.

В теории добро на отстрел косолапых могут дать, когда минимальная численность этого зверя достигнет 700 особей в стране. На практике, пока это случится, на Витебщине могут дождаться беды. Считаю, квоту в 3–4 особи не угрозой биоразнообразию нашего региона, а возможностью отвадить от деревень непрошеных и непредсказуемых лесных гостей.

**Анна НАУМОВА**
**www.sb.by**

«ЖАНЧЫНА ГОДА 2021»

# ЧАРГОВАЯ ЎЗНАГАРОДА МАРЫНЫ ГУШЧО

**Напярэдадні самага светлага вясновага свята, у якое нават сонца свеціць ярчэй, мы сустрэліся з вядомай на Гарадоччыне культурнай дзячкай, ініцыятыўным кіраўніком філіяла «Гарадоцкі Дом рамёстваў і фальклору» Цэнтра традыцыйнай культуры і народнай творчасці, цудоўнай і любячай мамай — Марынай Леанідаўнай Гушчо.**



Марына Леанідаўна — кіраўнік гуртка па ткацтву Гарадоцкага Дома рамёстваў і фальклору — была ўдастоена звання «Чалавек года Віцебшчыны-2011», гранта Прэзідэнта на 2020 г. на рэалізацыю праекта па развіццю тэхналогіі ажурнага ткацтва Гарадоцкага раёна і шматінш. Карункавыя палотны, выкананыя ва ўнікальнай тэхніцы, экспанаваліся на выставах у Расіі, Польшчы, Венесуэле, Прыбалтыцы і Турцыі. А 2 сакавіка М.Л. Гушчо адзначана Дыпломам Віцебскай абласной арганізацыі ГА «Беларускі саюз жанчын» за перамогу ў намінацыі «Духоўнасць і культура» абласнога этапа конкурсу «Жанчына года 2021». Хваралі за прадстаўніцу раёна на рэспубліканскім этапе!

Пад кіраўніцтвам пісьменнага натхняльнага кіраўніка работнікі ўвасабляюць у жыццё самыя смелыя і ўнікальныя творчыя задумкі. Супрацоўнікі не баяцца тварыць, бо настаўнік, у некаторым сэнсе і духоўны кіраўнік, які заўсёды падтрымае і зразумее. Кожны, каму даводзілася размаўляць з Марынай Леанідаўнай, заўважыў відавочны агеньчык у яе вачах. Аб працы яна гатовая распавядаць гадзінамі, захоплена, пранікнёна і не паўтараючыся. Але калі справа тычыцца асабістых дасягненняў, то сціпла кажа: «Я проста раблю сваю працу, якую вельмі люблю. Нічога звышнатуральнага і незвычайнага, — кажа Марына Гушчо. — Сваёй галоўнай задачай я лічу арганізаваць камфортныя ўмовы для сваіх работнікаў. Раней у нас былі праблемы з матэрыяламі, а цяпер мы маем сур'ёзную матэрыяльна-тэхнічную базу, у наяўнасці — усё неабходнае, гэта дазваляе развівацца майстрам».

Верагодна, добрыя ўмовы сапраўды даюць стымул для творчасці, бо пачатак года для калектыву выдаўся вельмі насычаным на выставы і тэматычныя мерапрыемствы. Па сакрэце, яны зрабілі больш запланаванага, але гэта нават добра, бо галоўнае, што людзі праяўляюць цікавасць да спрадвечнай беларускай творчасці.

А ўжо Марына Леанідаўна ведае, наколькі ўнікальная і разнастайная гісторыя беларускай культурнай спадчыны.

— На гэты год у нас запланавана тры маштабныя праекты: па вышыўцы, саломапляценні і спіральным пляценні, а таксама навінка — «Духоўная спадчына». Мне здаецца, што ў сучасным свеце не хапае духоўнасці, нейкай эмацыйнай пераемнасці, таму ў рамках трэцяга праекту мы з калектывам будзем наведваць тэатр, культурныя мерапрыемствы ці нават проста разам выязджаць на прыроду для збору матэрыялаў. Усё гэта згуртуе і ўзбагаціць нас зносінамі і новымі ведамі, — распавяла гераіня нашага матэрыялу. — Я лічу, што мы на правільным шляху, бо мы любім тое, што робім і робім тое, што любім. Гарадоцкія творцы самі імкнуцца падзяліцца сваёй творчасцю і майстэрствам з усімі жадаючымі.

— Я чалавек вернік, таму штогод мы запрашаем у Дом рамёстваў і фальклору бацюшку для асвячэння будынка. Упэўнена, што ў нашай творчай справе, нам спадарожнічае Божае благаслаўленне, — рэзюмуе М.Гушчо. — Цяпер, улічваючы абстаноўку ў суседніх дзяржавах, хочацца, каб усе жылі ў міры і згодзе, каб Бог не адвярнуўся, а вера і ўзаемнае разуменне і прабачэнне сталі шчытом для людзей. А калі вакол пануе гармонія і спакой, хочацца і тварыць, і ствараць, і сузіраць...

**Юлія Рудзякова**
**Паводле: www.garadvest.by**

КАМІТЭТ ААН

# СМЯРОТНЫ ПРЫСУД

**Камітэт ААН па правах чалавека асуджае Рэспубліку Беларусь за прывядзенне ў выкананне смяротнага прысуду ў дачыненні да Віктара Паўлава, чыя справа ўсё яшчэ знаходзіцца на разглядзе Камітэта.**

С 2010 года Віктар Паўлаў з'яўляецца ўжо 15-й па ліку асобай, пакаранай Рэспублікай Беларусь падчас разгляду яго справы Камітэтам ААН па правах чалавека, нягледзячы на неаднаразовыя просьбы Камітэта прыпыніць выкананне прысуду на час разгляду яго скаргі аб заяўленых ім парушэннях яго правоў.

Віктар Паўлаў быў затрыманы 3 студзеня 2019 года па падазрэнні ў здзяйсненні забойства і крадзяжы маёмасці. У гэты ж дзень, у адсутнасць адваката, ім былі падпісаныя прызнавальныя паказанні, і пракурор санкцыянаваў меру стрымання ў выглядзе зняволення пад варту. Упершыню Паўлава прывезлі ў суд толькі праз пяць месяцаў пасля яго затрымання. У ліпені 2019 года Віцебскі абласны суд асудзіў яго да вышэйшай меры пакарання. У лістападзе таго ж года Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь пакінуў у сіле прысуд суда першай інстанцыі.

Скарга Паўлава ў Камітэт ААН па правах чалавека была пададзена ў 2020 годзе і ўтрымлівае заявы аб ужыванні да яго катаванняў у месцах зняволення, аб адмове ў доступе да юрыдычнай дапамогі і аб несправядлівым судовым разглядзе. Камітэт зарэгістраваў скаргу і пачаў вытворчасць па падрыхтоўцы яе да разгляду.

Камітэт неаднаразова накіроўваў Рэспубліцы Беларусь просьбы аб прыпыненні выканання смяротнага прысуду, а пачынаючы з чэрвеня 2021 года таксама прасіў прадаставіць інфармацыю аб месцазнаходжанні Віктара Паўлава ў сувязі з інфармацыяй пра магчымае таемнае выкананне смяротнага прысуду. Аднак ні на адзін з запытаў Камітэт не атрымаў адказаў.

Некаторы час назад Віцебскі абласны суд нарэшце праінфармаваў сям'ю Паўлава, што смяротны прысуд быў прыведзены ў выкананне, але не прадаставіў інфармацыю пра дату пакарання ці месца, дзе пахаванае цела Віктара Паўлава.

У падобных справах, якія тычацца таемнага выканання смяротнага пакарання, Камітэт ААН па правах чалавека раней выявіў парушэнне Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Камітэт таксама ўжо прызнаваў невыкананне Рэспублікай Беларусь працэдур Камітэта і невыкананне яго просьбаў аб прыняцці часавых мер абароны парушэннем Факультатыўнага пратаколу да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, бо ўсе дзяржавы-ўдзельнікі абавязаны ў адпаведнасці з міжнародным правам добрасумленна супрацоўнічаць з Камітэтам.

Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе і Цэнтральнай Азіі, якая ўжывае смяротнае пакаранне. У сваім апошнім дакладзе па Беларусі, апублікаваным у лістападзе 2018 года (ёсць на англійскай і рускай мовах), Камітэт па правах чалавека падкрэсліў, што Рэспубліцы Беларусь "варта разгледзець пытанне аб увядзенні мараторыя на смяротнае пакаранне ў якасці першага кроку на шляху ўсталявання заканадаўчай забароны смяротнага пакарання і ратыфікацыі другога Факультатыўнага пратаколу да Пакта, замяніць усе смяротныя прысуды турэмным зняволеннем і актывізаваць высілкі дзеля змены грамадскай думкі аб неабходнасці захавання смяротнага пакарання".

Нягледзячы на тое, што смяротны прысуд у дачыненні да Віктара Паўлава ўжо быў прыведзены ў выкананне, Камітэт ААН па правах чалавека, у адпаведнасці са сваёй практыкай, працягне разгляд яго справы на адной са сваіх будучых сесій.

**"Віцебская вясна"**

МЕРКАВАННЕ

# «ЛУКАШЕНКО ЧУЕТ, ЧТО АКЕЛА-ПУТИН ПРОМАХНУЛСЯ»

**Экономист Ярослав Романчук — о том, что в мире происходит, наконец, моральное избавление от real politic, где главное — деньги. И чего ждать.**



Все больше брендов и компаний объявляют о том, что уходят как из России, так и из Беларуси. Этот массовый исход белорусы прочувствуют на себе, причем не в отдаленной перспективе, а уже в ближайшее время, отмечает известный белорусский экономист Ярослав Романчук, который находится в Киеве.

— Это такой очень жесткий способ выучить законы, причем не только экономики, но демократии и общечеловеческих ценностей, — сказал эксперт в экспресс-комментарии «Салідарнасці». — В ситуации, когда Лукашенко воспринимается частью кампании агрессора в войне против Украины, естественно, в мировом сообществе, особенно с учетом репутации Лукашенко 2020-2021 года, особо не разбирают степень вовлеченности белорусского режима.

Сегодня происходит, наконец, моральное избавление от real politic, где главное — деньги, «бабки», а остальное вторично. Наверное, впервые в мировой экономике мы имеем прецедент, когда во главу угла международные компании ставят иные ценности — ценность жизни, ценность мира.

Даже такой гигант, как Coca-Cola, который работал даже в Советском Союзе, не мог не реагировать на обструкцию, устроенной компании по всему миру за то, что она решила остаться в России, и в итоге решил оттуда выйти.

Поэтому те белорусы, которые ностальгировали по советской экономике, думали, что централизованное плановое хозяйство — хорошо, государственная собственность — это хорошо, теперь на собственной шкуре убедятся, что это такое.

Это радикальное сокращение инвестиций, это технологическая деградация, сотни тысяч разрушенных рабочих мест, дыра в бюджете. Резкое падение качества жизни, начиная с самого начала — памперсы, продукты гигиены, лекарства, сбор ребенка в школу, связь, образование, инструменты, комплектующие, технологии.

Каждый белорус даже не осознавал, каким количеством иностранных товаров и слуг он пользуется, считая это чуть ли не само собой разумеющимся.

Те компании, которые дружно вышли или анонсировали выход из России и Беларуси, демонстрируют переход в новый мир, в котором, в отличие от зомбированных марксистов, не «все за деньги». Происходит детоксикация сознания белорусов от Госплана, «совка 2.0».

Санкции против России радикально ускорят этот процесс, подчеркивает аналитик, особенно с ощутимой угрозой милитаризации и населения и призыва тысяч мужчин на военную службу.

**— Кто хочет быть частью агрессии, чтобы тебя застрелили в Украине и потом стыдливо прятали трупы, потому что тебя, якобы, здесь, нет?**

В общем, происходит действительно тектонический слом, та точка бифуркации, которая, получается, растянулась на три года с 2020-го — но теперь уже все.

Дефицит бюджета, падение доходов — про пенсии можно забыть. Те пенсионеры, которые голосовали за Лукашенко и считали, что Запад — это плохо и он загнивает, получат возможность убедиться, к чему может привести реализация их пожеланий.

Русские не ожидали, что давление будет происходить так резко, потому что все предыдущие годы с ними яшкались, проходили инвестиционные форумы — Валдайский, Красноярский, Питерский, Московский — у Путина и его окружения сложилось ощущение, что деньги, вывезены из страны, будут работать и никуда не денутся. Но когда, по сути, они начали Третью мировую войну — это уже не про прибыль, а про существование цивилизации. Ставки слишком высоки.

Это гигантская, грубейшая ошибка Путина. И то, что Лукашенко, хотя говорили о готовности войск, таки не решился послать армию в Украину, много значит. Он очень хитрое политическое создание, думаю, он уже чует, что Акела-Путин промахнулся, не хочет вместе с ним уйти в небытие и пытается хоть как-то выйти из этой ситуации.

**Однако, по мнению экономиста, опасно думать, что во всем виновата только Россия, а Беларусь вообще не при чем:**

— Белорусская плановая экономика как раз была частью проблемы, с которой мы столкнулись. Было бы иначе — не было бы у нас такой диктатуры, такой военной хунты, были бы гораздо более устойчивые институты развития; но вся существующая зависимость от России, контрабандный схематоз привели к тому, что мы тоже «приплыли».

Появляется шанс катарсиса — но если не выучить уроки, то его не будет. Не хотелось бы доходить до уровня Ирана, Венесуэлы, Северной Кореи. Но если представить, что Украина побеждает (а в этом нет никаких сомнений), то ее ждет бум обновления, а в России и Беларуси, если не будет критических изменений, ждет именно деградация по венесуэльскому и северокорейскому сценарию.

**Виктория Прокопович**
**gazetaby.info**

АНАЛІТЫКА

# БЕЛАРУСКАЙ МАДЭЛІ ЗАСТАЛОСЯ НА ТРЫ ДНІ?

**На зыходзе трэцяга дзесяцігоддзя будаўніцтва беларускай мадэлі ва ўвесь рост паўстала праблема «выжывання большасці галін» — а значыць, і мадэлі ў цэлым!**

Вялікае бачыцца на адлегласці. Спатрэбілася пражыць два разы па трыццаць тры гады, а потым яшчэ тры гады, каб усвядоміць усю глыбіню «Казкі пра рыбака і рыбку». Яна не пра рыбака і рыбку. Яна пра Саюзную дзяржаву, дакладней, пра яе самоту.

Не верыце? Тады звярніцеся да прэс-рэлізу апаратыўнай нарады з вайскоўцамі на галоўным сайце краіны: «Трэба быць разам з тым, хто... Ну з кім мы можам быць разам? З палякамі? Ніколі. Вы бачыце іх пазіцыю. З прыбалтыйскімі рэспублікамі? Дык яны самі прыткнуліся да кагосьці. З украінцамі — вы бачыце, што у нас атрымалася».

…Наша яна, матухна, наша. Не сумнявайцеся. Таму і газ за 128,52 «зялёных». Розніца на парадак! Без гэтай розніцы не відаць сярэднестатыстычнаму беларусу сярэднестатыстычнага заробку ў 657 долараў у снежні. Аднак гэта ў снежні — з улікам выплат па выніках года і пры курсе ў 2,55 рублі за долар. А якім ён будзе ў сакавіку?

Не ўсё ў руках Божых, сёетое і прэзідэнту Джозэфу Байдэну дасталося. Днямі ён распарадзіўся пра ўвядзенне ў дачыненні да Расіі новых «магутных» санкцый: «Мы абмяжуем магчымасць для Расіі весці бізнес у доларах, еўра, фунтах, енах, быць часткай сусветнай эканомікі».

Дык ці ж тое пагроза! Ніколі ў сваёй гісторыі Расія не імкнулася стаць нечай часткай, таму жылі, жывуць і будуць жыць большасць расійскіх старых людзей у старых зямлянках, але з пачуццём прыналежнасці да вялікай дзяржавы.

**«Ціха сам з сабою...»**

Адным з сінонімаў слова «імпартазамяшчэнне» з'яўляецца слова «ананізм». Абодва маюць прамое дачыненне да слова «самазадавальненне». Вікіслоўнік дазваляе азнаёміцца і са значэннямі слова. Ён рэкамендуе чытачам, зацікаўленым на эканамічнай тэматыцы, кнігу гісторыка Арона Гурвіча «Катэгорыі сярэднявечнай культуры».

Сярэднявечная культура, сярэднявечная эканоміка натуральным чынам заточаныя на самазадавальненне. Але, як аказалася, і сучаснасць яму не чужая.

Канкрэтны прыклад. Паводле звестак партала Aviation Experts, 93 працэнты замежных самалётаў забяспечваюць практычна ўсе пасажырскія перавозкі ў Расіі. 60 працэнтаў рынку займаюць пры гэтым самалёты Airbus і Boeing.

З таго ж дакумента вынікае, што да 2030 года авіякампаніям Расіі спатрэбіцца каля 700 новых самалётаў. Эксперты нагадваюць, што адзіным грамадзянскім самалётам, які выпускаецца серыйна на постсавецкай прасторы, з'яўляецца Superjet 100. У 2021 годзе выраблена 23 самалёты, у 2022 годзе чакаецца яшчэ 18.

Невялікае ўдакладненне наўздагон: на 80% расійскі суперсамалёт складаецца з імпартных дэталяў…

З імпартазамяшчэннем вас, дарагія таварышы! З самазадавальненнем!

**«Вы гатовыя плаціць?»**

У сваёй публічнай лекцыі, прачытанай за дзень да пачатку расійскай агрэсіі супраць Украіны, прафесар Чыкагскага ўніверсітэта Канстанцін Сонін прывёў, сярод іншых, і наступны факт: «Прыкладна з 2008 года ідзе стагнацыя — сярэднія тэмпы росту меншыя, чым падчас застою 1970-х гадоў».

Чым скончыўся застой, мяркую, можна не нагадваць. Адным з трыгераў, якія запусцілі лавінападобны працэс дэградацыі савецкай мадэлі, паслужыў увод войскаў у Афганістан. Але дзе той Афганістан і дзе Украіна? Калі да таго (да ўвядзення маштабных эканамічных санкцый) расійская эканоміка стагнавала, дык чаго варта чакаць цяпер?

Памылііца той, хто палічыць апошняе пытанне рытарычным. У Пасланні—2022 на яго быў дадзены разгорнуты адказ: «Мы многае, калі не ўсе, зможам зрабіць самі. Гэта ўмова захавання нашага суверэнітэту, патрэбна толькі сістэмная і ўпарадкаваная праца па забеспячэнні эканамічнай самадастатковасці краіны.

Усё ў нас гэта ёсць. Таму намечаныя планы па імпартазамяшчэнні з'яўляюцца асновай выжывання большасці галін, дазволяць адысці ад санкцыйнай уразлівасці. Пытанню імпартазамяшчэння будзе нададзеная першасная ўвага ў наступнай пяцігодцы».

На зыходзе трэцяга дзесяцігоддзя будаўніцтва беларускай мадэлі ва ўвесь рост паўстала праблема «выжывання большасці галін» — а значыць, і мадэлі ў цэлым!

Думка пра тое, што мадэль аказалася каля чырвонай рысы, чырвонай жа ніткай праходзіць праз усё Пасланне—2022. Пра гэта, калі хто не зразумеў, і тры пытанні, звернутыя да беларускага грамадства. Не магу ўтрымацца, каб не нагадаць іх: «Ці гатовыя вы, беларусы, плаціць за ўласную абарону, за ўласную дзяржаву?», «Вы гатовыя плаціць за гэта дарагую цану, імя якой — суверэнітэт і незалежнасць?» і «Ці гатовыя вы быць ініцыятыўнымі і працаваць на сябе?»

Як тут ні прыгадаць плакат часоў Грамадзянскай вайны з чырвонаармейцам: «Ты запісаўся...», " Ты гатовы...".

Асабіста я быць ініцыятыўным і працаваць на сябе гатовы. І гэты опус — яскравае таму сведчанне.

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.online**

МЕРКАВАННЕ

# НАПАД РАСІІ НА УКРАІНУ СТАЎ ПАЧАТКАМ ТРЭЦЯЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ?

**Джордж Сорас пракаментаваў напад Расіі на Украіну. Па словах амерыканскага фінансіста, Пуцін «вырашыў пакараць Украіну за тое, што яна супраціўляецца, і стаў дзейнічаць без усялякіх тармазоў».**

Напад Расіі на Украіну 24 лютага стала пачаткам Трэцяй сусветнай вайны. Пра гэта ў сваім артыкуле, які апублікавала выданне Project Syndicate, заявіў амерыканскі фінансіст і заснавальнік фонду «Адраджэнне» Джордж Сорас.

На думку Сораса, гэтая вайна патэнцыйна можа знішчыць нашу цывілізацыю.

У артыкуле гаворыцца, што перад уварваннем прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін і старшыня Кітая Сі Цзіньпін апублікавалі вялікі дакумент, у якім абвяшчалася аб цесным партнёрстве паміж дзвюма краінамі.

«Я быў здзіўлены, што Сі відавочна дае Пуціну карт-бланш на ўварванне і развязванне вайны супраць Украіны», — адзначыў Сорас.

«Пуцін жа, заручыўшыся падтрымкай Сі, заняўся ажыццяўленнем мары ўсяго свайго жыцця з неверагоднай жорсткасцю. Неўзабаве Пуціну споўніцца 70 гадоў, і ён адчувае, што, калі ён хоча пакінуць след у расійскай гісторыі, яму трэба дзейнічаць альбо цяпер, альбо ніколі», — гаворыцца ў артыкуле.

На думку Сораса, Пуцін мае намер стаць царом для Расіі і, «прыдумаўшы сабе ідэю фікс, Пуцін відавочна страціў сувязь з рэальнасцю».

«Я не ведаю Пуціна асабіста, але вельмі ўважліва назіраю за яго ўзвышэннем і ведаю, што ён бязлітасны. Ён ператварыў у руіны чачэнскую сталіцу Грозны, а цяпер пагражае зрабіць тое ж самае з украінскай сталіцай Кіевам», — напісаў фінансіст.

Па словах Сораса, Пуцін чакаў, што рускамоўныя ўкраінцы будуць сустракаць расійскіх салдат з хлебам-соллю, але моцна памыліўся.

«Ён [Пуцін. — рэд.] вырашыў пакараць Украіну за тое, што яна супраціўляецца, і стаў дзейнічаць без усялякіх тармазоў. Ён кінуў у бой усю расійскую армію і ігнаруе любыя правілы вайны», — адзначыў Сорас.

Паводле яго слоў, не выключана, што Расія прайграе гэтую вайну, паколькі заходнія партнёры пастаўляюць Украіне абарончыя віды ўзбраенняў.

«Тым часам Сі, падобна, зразумеў, што Пуцін сарваўся са шпулек... Сі патэлефанаваў прэзідэнту Францыі Эмануэлю Макрону і канцлеру Германіі Олафу Шольцу і заявіў, што падтрымлівае іх міратворчыя намаганні. Ён хоча максімальнай стрыманасці ў гэтай вайне, каб прадухіліць гуманітарны крызіс. Няма ніякіх гарантый, што Пуцін саступіць пажаданням Сі. Мы можам толькі спадзявацца, што Пуцін і Сі будуць адхілены ад улады да таго, як яны знішчаць нашу цывілізацыю», — зрабіў высновы Сорас.

**Паводле www.unian.net**

ГЕРОЯМ СЛАВА

# СІЛА ВЯРБЫ ВЯДОМАЙ КАМБАТАНТКІ, ЯКАЯ БЫЛА ШМАТДЗЕТНАЙ МАЦІ

**25 лютага 2022 года ў самым пачатку новай вайны Расіі супраць Украіны ў баях за Кіеў загінула Ірына Цвіла — вядомая камбатантка, фотамастачка, ваенная фотахранікёрка, аўтарка ваенных занатовак, якая з 2014 года сведчыла свету аб тым, што ў вайны жаночае аблічча.**

Настаўніца па адукацыі, Ірына стала грамадскай актывісткай, журналісткай і фотамастачкай падчас Рэвалюцыі Годнасці. На Еўрамайдане зразумела, што мірна жыць Украіне Расія не дазволіць, а таму вырашыла абараняць краіну не проста ўдзелам у акцыях ці настаўніцтвам, а са зброяй у руках.

Улетку 2014 года яна стала добраахвотніцай з ваенным пасведчаннем у батальёне «Січ» (Сеч) — цяпер гэта полк спецпрызначэння «Київ».

Яшчэ падчас Майдану, потым АТА (антытэрарыстычнай аперацыі) на Усходзе Украіны яна пачала фіксаваць рэвалюцыю і вайну на камеру.

У 2017 годзе адбылася персанальная выстава фотамастачкі — «Від Майдану до АТО».

Але перадусім яна была камбатанткай і не любіла, калі яе называлі ваеннай журналісткай ці проста фотамастачкай, хоць жанчынаў часта прымацоўвалі да прэсслужбы, каб выхаваць ім жыцці. Ірына стамілася ад аберагання і настаяла на баявых заданнях. Яна прайшла крывавыя абстрэлы пад Славянскам, баі ў Пясках (Данеччына).

З маладосці палюбіла кветкі, займалася ружамі, у якіх хавалася ў цяжкія моманты. А яшчэ на вайне яе здзівіла і зачаравала сіла вярбы: абстраляная, знявечаная, падаецца, вынішчаная, яна насупор усяму аднаўлялася і квітнела. Сіла вярбы давала сілу і ёй на вайне. У гэтым дрэве Ірына пабачыла мацату Украіны, якая аднаўляецца насуперак агрэсіі.

У ветэранскім жыцці Ірына доўга шукала сябе, не магла адаптавацца да цывільнага жыцця. Дзякуючы праекту «Посестри» прайшла трэнінг і вырашыла скіраваць энергію на стварэнне прыгожага — так, паўстаў праект VERBA . Ірына стварала біжутэрыю на аснове кветак не толькі вярбы, але і іншых раслінаў.

Калі-нікалі яна дзялілася сваімі ваеннымі ўспамінкамі: падчас рэдкіх публічных выступаў ці ў друку. Так, у 2017 годзе апублікавала свае занатоўкі пра вайну ў калектыўнай кнізе «Голос війни: історії ветеранів» (Голас вайны: гісторыі ветэранаў). Таксама сталася гераіняй кнігі «Дівчата зрізають коси» (Дзяўчаты зразаюць косы), якая атрымала Шаўчэнкаўскую прэмію.

На ўварванне Расіі ва Украіну 24 лютага 2022 года Ірына зрэагавала імгненна — яна вярнулася на вайну. 25 лютага ў баях за Кіеў загінула разам з спадарожнікам жыцця Дзмітром. Сіротамі засталіся іх пяцёра дзяцей.

Мажліва, запаветам Ірыны можа стаць ейнае ж выказванне ў адным з інтэрв'ю: «Можа, я разрыдаюся, калі надыдзе перамога, а пакуль няма часу кіснуць». Слава Украіне!

**Уладзіслаў Гарбацкі**
**novychas.online**

ПОГЛЯД З УКРАІНЫ

# «СЕЙЧАС В УКРАИНЕ РЕШАЕТСЯ НЕ ТОЛЬКО СУДЬБА УКРАИНЫ, НО И СУДЬБА БЕЛАРУСИ»

**Шансов остаться братьями мало, но шансов остаться людьми много. Известный врач — об опасности расчеловечивания.**

Политик Андрей Дмитриев поговорил с известным детским врачом Евгением Комаровским. Доктор, который с начала войны с семьей находился в Харькове, рассказал о том, что происходит в городе и как меняются настроения людей.

...Поначалу, когда в пять утра мы проснулись от канонады, у меня было ощущение, что я пришел в это кино, сейчас побегут какие-то титры, а у мамы будут дрожать руки — потому что в 41-м году они уезжали с бабушкой из Харькова в эвакуацию в Сибирь.

Мой дед не мог смотреть фильмы о войне, не мог слышать ни одного выстрела, хотя прошел всю войну. И когда отец показывал мне коробку с орденами, то делал так, чтобы дед не видел — потому что он их ненавидел и никогда не надевал. Он считал войну самым страшным, самым жутким, что было в его жизни.

И этот лозунг, который так много звучал... Они действительно доказали всему миру, что могут повторить. Понимаете, как это страшно? Когда в Украине был лозунг «Никогда больше», то в России был лозунг «Можем повторить». Они были готовы к этому, а мы не хотели понимать, не верили, что это реально возможно — это был сюр, шизофрения... Вот так мне это видится.

На заявления российской пропаганды о необходимости «денацификации» Украины и плохом отношении к русским Евгений Комаровский — русскоязычный, из, пожалуй, самого русскоязычного города в стране — приводит свой личный пример. И поясняет: в Украине очень трепетно относятся к своей независимости — «это как новорожденное дитя», и когда на это покушаются, учат, как жить, это воспринимают в штыки:

— В ответной реакции, вне всякого сомнения, тоже бывают перегибы. Но огромное количество людей в Украине абсолютно демократическими методами пыталось найти золотую середину. Сейчас ее уже нет.

Настроения людей, отмечает врач, меняются каждый день: первые два дня многие были уверены, что все быстро закончится и вернется в норму.

…Меня очень волнует — стремительно нарастающий градус ненависти. Все самое светлое, что было: мирный, один из самых красивых городов Европы, чистенький, вылизанный харьковчанами и властями, где в первые дни бомбежек продолжали вывозить мусор — и видеть, как этот город убивают на глазах, какое у тебя чувство?! Когда утром общий чат-перекличка — живой, неживой, у нас в огород упала ракета — вот так мы живем, понимаете?..

И вот это чувство ненависти, в топку которого каждый день подбрасываются дрова. Потому что это не прекращается, более того, интенсивность обстрелов увеличивается при том очевидном факте, что неделю стреляют по Харькову, уничтожая военные объекты (народу России и Беларуси ведь так говорят?) — вы что, криворукие ***, за неделю не можете высокоточным оружием попасть в военные объекты?! Или теперь стреляете по городу, чтобы убить живую силу, потому что страшно ножками прийти сюда?...

Врач также обратился к белорусам:

— Друзья мои. Хочется сказать: братья-белорусы — вы же еще братья, вы же от нас не отреклись? Вам сейчас решать, как жить дальше, потому что сейчас в Украине решается не только судьба Украины, но и судьба Беларуси.

Самое малое, что вы можете для нас сделать — хотя бы остаться в стороне, сделать все, чтобы со стороны Беларуси не было агрессии. Хотя бы невмешательство в этот «братский» конфликт. Обо всем остальном, пожалуй, я могу только мечтать.

Отдельно хочется обратиться ко всем силовикам, офицерам. Офицерская честь — подумайте, что для вас в этом слове? Может ли офицер поднять руку на женщину, выстрелить в направлении, где, даже теоретически, может быть ребенок? Подумайте об этом. Шансов остаться братьями мало, но шансов остаться людьми много. Давайте их не упустим.

**gazetaby.info**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: leo592202@gmail.com Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 15.03.2022 у 18.15** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.